«ДОБРАМУ ВЕЧАРУ» АДКАЗВАЮЦЬ

# «03» — ВЫРАТАВАННЕ?» —

**пад такім загалоўкам у № 213 «ДВ» 9 лістапада быў апублікаваны артыкул Наталлі Уласюк. У ім аўтар крытыкавала дзейнасць сталічнай «хуткай». Адказвае на публікацыю галоўны ўрач гарадской станцыі хуткай медыцынскай дапамогі Віталь ЦІЦІШЫН.**

«Гул сирены «скорой помощи», як піша Наталля Уласюк, сапраўды, стаў чутны ў горадзе радзей. Растлумачыць гэта можна тым, што з 1989 года рэзка скарацілася колькасць выклікаў «хуткай». Напрыклад, у 1992 годзе на 70 тысяч, а ў 1994 — на 50 тысяч выклікаў. У сувязі з гэтым былі скарочаны 10 брыгад службы «03».

Акрамя таго, чатыры-пяць гадоў назад на кожным перакрыжаванні праспекта Скарыны стаяў паставы ДАІ, які мог інфармаваць іншыя пасты і даць «зялёную вуліцу» брыгадзе хуткай меддапамогі. Сёння, на жаль, службе «03» прабрацца праз касякі хуткасных іншамарак на вуліцах больш складана. Нават пры ўключанай сірэне ніхто дарогу не саступае. Адсюль і шматлікія аварыі, у якія трапляюць нашы спецаўтамабілі. У выніку загінуў урач А.Паставы, інвалідам стала фельчар В.Шакаль, атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні ўрач С.Вечар і фельчар С.Собаль. Што тычыцца аўтамабіляў, то некаторыя з іх так і не ўдалося зноў давесці да рабочага стану.

Следчыя эксперыменты паказалі, што калі ў салоне прыватнага аўтамабіля ўключаны магнітафон або радыёпрыёмнік, то вадзіцель не чуе сірэны «хуткай». Вось чаму брыгады службы «03» выключаюць іх, калі едуць на месцы аварый, катастроф, калі дастаўляюць у клінікі цяжкахворых і пацярпелых.

Аб часе прыезду «хуткай» на месца выкліку. Ён рэгламентаваны нарматывамі і адпаведным загадам. Так, напрыклад, каб запісаць выклік, знайсці свабодную брыгаду і перадаць выклік, затрачваецца не больш 4 хвілін, а каб заехаць у крайнюю кропку падстанцыі — 15 хвілін. Гэта па неадкладнай меддапамозе. Тэмпературныя ж хворыя і іншыя абслугоўваюцца ў парадку чаргі на працягу гадзіны.

Каб не ехаць з аднаго канца горада ў другі, у Мінску працуюць 7 падстанцый, амаль у кожным раёне. Адкрываецца і восьмая — у мікрараёне «Захад». На кожнай падстанцыі працуюць ад 7 да 25 брыгад «хуткай».

Сцвярджэнне аўтара аб быццам бы існуючых сакрэтах аб адзейнасці хуткай меддапамогі не мае аніякіх падстаў. Наадварот. Аб рабоце службы «03» адміністрацыя рэгулярна інфармуе насельніцтва і ў «Добрым вечары», і ў «Вячэрнім Мінску». А 15 лістапада, у «лёдавы аўторак», аператыўная інфармацыя аб траўматызме ішла кожную гадзіну Мінгарвыканкаму і газетам.

І апошняе, аб дзейнасці «Выратаванне-911». Аб гэтай службе наша «хуткая» інфармавана добра. Але да нас за вопытам прыязджалі амерыканцы, немцы, карэйцы і іншыя. Дык вось, служба «Выратаванне-911» выязджае на месцы здарэнняў няшчасных выпадкаў ад 1 да 5 разоў за суткі, гэта каля 3 тысяч выездаў за год. Нашая ж служба «03» выязджае па выкліках 1500 і больш разоў за суткі, што за год складае каля 530 тысяч выездаў.

Розніца, думаю, заўважная»

МНЕНИЕ

# БЕЗ «ЦЕНТРА» НЕТ ДЕМОКРАТИИ

**Сергей НОСОВ, пресс–секретарь Партии поддержки СНГ.**

Извечная участь центра — подвергаться атакам и слева и справа. А там, где центр слаб и неустойчив (как у нас, в Беларуси, где он не имеет под собой значительной социальной базы, где сильны крайности), возникает та ситуация, которая сейчас складывается по отношению к Президенту и его курсу. (А ранее по отношению к Станиславу Шушкевичу в бытность его Председателем Верховного Совета.) Конечно, позиция А.Лукашенко не является еще подлинным центром, но, считаясь с обстоятельствами, Президент вынужден быть реалистом. Он не стал выполнять свою предвыборную программу хотя бы потому, что она невыполнима. Так же, как и Кучма, поддержанный на выборах социал-коммунистической пулькой, придя к власти, стал ратовать за рыночные реформы. Геннадий Карпенко высказался как-то, что антикризисная программа Президента — «фиговый листок», призванный прикрыть наготу «нового курса». Позволю себе с этим не согласиться. Нельзя не видеть в ней вынужденных мер, на которые пошел бы любой демократ, придя к власти в нынешней ситуации. Я далек от апологетики Президента, но с ним можно согласиться в том, что приватизацию нельзя проводить кавалерийской атакой — та же Тэтчер приватизировала автобусные компании десять лет.

Однако это не означает, что приватизация должна находиться в полумертвом, а точнее, задушенном состоянии. Особенно ваучерная. В посткебичевский период директорат, номенклатура по-прежнему не хотят выпускать из рук очень часто «прихватизируемую» и используемую ими госсобственность.

Президентская вертикаль подвергается ожесточенной критике со всех сторон, но нельзя не видеть, что в кебичевскую эпоху Беларусь дошла до удельной раздробленности, когда местные Советы игнорировали принимаемые парламентом и правительством решения. Единственное, что они делали, так это подшивали спускаемые «сверху» документы. На практике наша страна вернулась ко временам Речи Посполитой, когда «каждый шляхтич на дому воеводе самому». Что хотели «паны», как называют в деревнях председателей колхозов и Советов, то и воротили. В Крупском районе одни законодательные нормы, в соседних — другие. Кое-где, как в Столинском районе, хлеб по карточкам, и то доставался после многочасового стояния. Самоуправство, произвол распущенных Кебичем феодалов достигли небывалого уровня.

Концепция власти и структуры Советов является одной из утопий Ленина и в России уже более года, как почила в бозе. Демократия — это все-таки сильная власть. Поэтому видеть в президентской вертикали только стремление к авторитаризму — упрощение.

БНФ требует импичмента Президенту, коммунисты с шовинистами столь же категоричны. На том, что творится с ценами в наших магазинах, все стремятся приобрести предвыборный капитал. Видимо, стоит напомнить, что в России в начале века именно объединенные усилия левой и правой оппозиции подорвали центр и сорвали проводимые им реформы, проложив дорогу большевистскому перевороту.

Веймарскую демократию в Германии разрушили также во многом параллельные усилия нацистов и коммунистов.

В цивилизованных странах у власти находятся только центристы. Существуют две центристские силы: социал-демократы (левоцентристы) и неоконсерваторы (правоцентристы). Между ними в политическом спектре располагаются либералы, представляющие из себя самый центр. Это, к примеру, Свободная Демократическая Партия в Германии, вступающая в коалицию то с социал-демократами, когда те побеждают на выборах, уравновешивая крен влево, то с христианскими демократами, уравновешивая крен вправо.

Демократия — это не многопартийность, а бипартийность, когда к власти приходят попеременно, как чаши весов, две центристские партии. Многопартийность служит здесь только фоном.

Поэтому хоть и существует в Беларуси около 30 партий, но о многопартийной системе говорить нельзя — нет бипартийности.

В соседней Литве она уже сложилась. Это — партия Труда, возглавляемая Бразаускасом (фактически социал-демократы), и правые во главе с Ландсбергисом. В соседней России выкристаллизовались консерваторы — Гайдар со своим «Выбором России», но нет пока настоящей социал-демократии. В соседней Польше также сформировалась двухпартийность: социалисты, ныне стоящие у власти, и потомки «Солидарности», бывшие ранее у руля. В Венгрии, Болгарии — ситуация схожая.

Реформы могут проводить только центристы. Левые и правые могут только расшатывать, критиковать, они по природе популисты и, как всякие крайности, во многом сходятся. Такое сходство есть у БНФ с коммунистами в их радикализме.

Почему же в Беларуси сильны только левые и правые и нет сформировавшегося центра? Кроме политической малограмотности электората одна из причин — отсутствие социальной базы. Буржуазные партии будут тогда, когда появится буржуазия.

Партия в полном смысле этого слова — это сила, отражающая интересы определенного социального слоя и финансируемая им.

Коммунисты, фашисты — это идеология люмпена, обвиняющая кого-то, классового или национального врага, в своем положении. Социал-демократы также отражают идеологию пролетариата, но, как говорил незабвенный Ильич, «рабочей аристократии» (квалифицированных рабочих) и «рабочей бюрократии» (мастеров, профессиональных деятелей). Они не являются радикалами, а склонны договариваться с капиталистами и, по словам того же вождя, «...являют базу для оппортунизма».

Потребность в центристах сейчас объективна. К таковым можно отнести Шушкевича, показавшего в свою бытность Председателем Верховного Совета способность к «соглашательству» в лучшем (и правильном) смысле этого слова, заявляющего о своей социал-демократической ориентации. К таковым можно отнести ОДПБ — либерал-консерваторов, Карпенко и ПНС...

Президент, как я считаю, склоняется к центризму. Но не надо забывать, что центр определяется умением проводить реформы. Именно эта способность и решит, в конце концов, с кем же Президент.

# НА ВУЛІЦАХ МІНСКА

Фота Ю.ЗАХАРАВА.

ЭКАНАМІЧНЫЯ ВЕСТКІ

## УСЁ НОВЫЯ РЫНКІ ЗБЫТУ

Смелы тэхнічны пошук дазваляе камбінату «Белшына» знаходзіць усё новыя і новыя рынкі збыту сваёй прадукцыі. Нядаўна, напрыклад, выпушчана доследная партыя грузавых шын новага класа для патрэб вытворчага аб'яднання «Белаўтамаз». Іх можна выкарыстаць і для новых аўтобусаў «Неаплан». Гэты тып аўтамабільнага «абутку», больш скораснага і трывалага, дазваляе эксплуатацыйнікам зніжаць расход паліва. У стадыі асваення яшчэ адзін узор шын гэтага ж класа — для фургонаў суперМАЗаў, якія заменяць здвоеную рызіну, што выкарыстоўваецца цяпер. Перавагі навінкі: у ёй замест 12-14 слаеў звычайнага корду ў каркасе выкарыстоўваецца адзін пласт металакорду. А гэта дазваляе знізіць масу вырабу на 10 працэнтаў.

Дарэчы, такіх шын у свеце вырабляецца няшмат. Таму новая прадукцыя бабруйчан карыстаецца попытам у фірм Заходняй Еўропы і Амерыкі.

ТАЦЦЯНА СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.

## «БЕЛАРУСЬКАЛІЙ» ПАШЫРАЕ КАНТАКТЫ

Вытворчае аб'яднанне «Беларуськалій» разам з падобным расійскім прадпрыемствам «Уралкалій», сумесным прадпрыемствам «Кама» і іншымі калійнымі кампаніямі падпісалі пратакол аб намерах стварыць на Украіне сумеснае прадпрыемства.

Яго задачай стане рэканструкцыя існуючага ў порце Ільчэўск пад Адэсай прычала для перавалкі калійных угнаенняў у аб'ёме 2,6 мільёна тон у год. У цяперашні час распрацоўваюцца заснавальныя дакументы гэтага прадпрыемства. Акрамя таго, інстытутам «ЧарнаморНДІпраект» распрацаваны праект комплексу па перавалцы хлорыстага калію. Зараз спецыялісты вырашаюць пытанні закупкі імпартнага і айчыннага абсталявання, неабходнага для рэалізацыі праекта.

Анатоль МАКСІМАЎ, БелаПАН.

## ЁСЦЬ КАНТАКТ — ЁСЦЬ КАНТРАКТ

У Міністэрстве па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі працягваецца ўзгадненне кантрактаў з кіраўнікамі дзяржаўных прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый і ўстаноў.

У аддзеле грамадскіх сувязей і маніторынгу Міндзяржмаёмасці на канец снежня былі цалкам узгоднены кантракты Белдзяржрэзерва і Міністэрства эканомікі. Амаль скончана праца па ўзгадненню кантрактаў у Міністэрстве статыстыкі і аналізу, Міністэрстве транспарту і камунікацый, канцэрне «Белместпрам», Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, канцэрнах «Белхімнафтапрам», «Белпаліўгаз» і «Белаграпрам». Больш за палову кантрактаў узгоднена ў сістэме Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.

## МНОГА ХОЧАШ...

100 тысяч «зайчыкаў» — такую цану «заламіла» Віцебскае абласное ўпраўленне бытавога абслугоўвання за навагодні выклік на дом Дзеда Мароза і Снягуркі. Зрэшты, нездарма ў народзе гавораць «шмат хочаш — мала атрымаеш». Дарагоўля паслугі моцна адпугнула заказчыкаў. У выніку загрыміраваныя юнакі з накладнымі барадамі засталіся без працы, фірма — без прыбытку, а сапраўдны Дзед Мароз — без канкурэнтаў.

Іван ВАЛІН, БелаПАН.

КРЫМІНАЛ

# «ГРУЗ ПРЫНЯЎ. ПАТРАШЫЦЕЛЬ»

У сувязі з невыкананнем міждзяржаўных і міжчыгуначных пагадненняў аб парадку перадачы грузавых цягнікоў на граніцы з дзяржавамі Балтыі, цягнікі і вагоны падвяргаюцца сапраўднаму разрабаванню. Гэта тычыцца асабліва ўчасткаў Маладзечна-Вайдатай і Полацк—Даўгаўпілс. Цягнікі рабуюць як па дарозе, так і ў парках станцый.

Так, на станцыю Маладзечна ўскрытыя вагоны часцей за ўсё прыбываюць з Літвы. У той жа час, на літоўскія станцыі Вайдатай і Панярай з Маладзечна паступаюць вагоны таксама з прыкметамі абрабавання. Прычым асаблівай увагай у «нашых» раскрадальнікаў карыстаюцца цыстэрны з бензінам і дызпалівам.

Выявіўшы абрабаваны вагон з камерцыйным ці тэхнічным бракам, яго накіроўваюць на камісійную выгрузку на станцыю прызначэння. Але перад гэтым у вагоне трэба прыбраць брак. І тут ён зноў становіцца «смачным кавалачкам» для аматараў лёгкай нажывы — у вагон, які стаіць асобна ад астатніх, лягчэй забрацца і «пажывіцца», тым больш, што да гэтага працэсу часам далучаюцца самі чыгуначнікі і нават супрацоўнікі ваенізаванай аховы і транспартнай паліцыі. Менавіта такая прадстаўнічая злачынная групоўка дзейнічала на станцыі Вайдатай Літоўскай чыгункі. Як толькі «патрашыцеляў» узялі, «бракаваных» вагонаў у Маладзечна стала менш.

Святлана ЮЗІК, БелаПАН.

ТРАНСПАРТ

# ДАРОГА РАЗВАЛЬВАЕЦЦА?

Кіраўніцтва Беларускай чыгункі накіравала ў Міністэрства транспарту і камунікацый рэспублікі ліст, у якім просіць уключыць пытанні, звязаныя з аднаўленнем рухомага саставу, у Праграму дзяржаўнай падтрымкі чыгуначнага транспарту.

Беларуская чыгунка даўно мае патрэбу ў сур'ёзным тэхнічным пераабсталяванні, рамонце і аднаўленні рухомага саставу. З 219 цеплавозаў, якія маюцца тут сёння, патрабуюць аднаўлення 208, з 95 дызель-цягнікоў — 42. Пасажырскі парк мае патрэбу ў папаўненні не менш чым 50 вагонаў штогод. А між тым, толькі адзін пасажырскі вагон Цвярскога вагонабудаўнічага завода каштуе 480 мільёнаў расійскіх рублёў, не гаворачы ўжо пра вагоны, пабудаваныя ў Германіі, якія «цягнуць» на мільён нямецкіх марак кожны. Для аднаўлення парка пасажырскіх вагонаў патрабуецца штогод звыш за 160 мільярдаў рублёў, якія дзяржава не ў стане выдзеліць.

Пасажырскія перавозкі сёння — стратныя. Грузавыя, здаецца, прыносяць прыбытак, але часцей за ўсё кліенты разлічваюцца несвоечасова. У такіх умовах дарога не ў стане сама закупіць і аднавіць рухомы састаў.

На думку спецыялістаў, каб выправіць становішча, трэба мэтавае фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту — 31 мільярд рублёў штогод. Дарэчы, практычна ва ўсіх краінах свету існуе дзяржаўная праграма падтрымкі чыгуначных пасажырскіх перавозак.

Святлана ЮЗІК, БелаПАН.

## УСМЕШКА МАСТАКА

Мал. В.Клімянкі.

СЕКРЕТ УСПЕХА

# ХОРОШЕЕ НАЗВАНИЕ ФИРМЫ — ПОЛОВИНА ДЕЛА

Дать имя человеку бывает не просто, правильно наречь компанию — трудно всегда. От этого нередко во многом зависит его судьба. Точно подобранное название может способствовать финансовому успеху компании в степени не меньшей, чем, допустим, отменное знание рынка ее персоналом.

Когда Дон Гудинг, владелец лондонского агентства, занимающегося организацией туристических поездок на Барбадос и Карибы, поменял его название, дела агентства тут же пошли на лад. Раньше оно носило некое скучное, малопонятное название, теперь: «Карибское золото».

Замена названия — безусловно, не единственный элемент, способствующий новому имиджу «Карибского золота», но, как замечает английская «Financial Times», важный.

Беда многих в том, что они ненаучно подходят к выбору имени для своей компании. Обычное дело, например, когда бизнесмены называют свои детища либо своими именами, либо именами своих детей или жен. Совсем не обязательно, кстати, что это — их полные имена, иногда название компании состоит лишь из инициалов ее основателей.

Иногда в названии пытаются «поиграть словами», что-то обыграть, иногда — пользуются описательным методом и так далее.

У всего этого есть, понятно, как сторонники, так и противники. Последние, например, считают, что основатели компании могут, допустим, уйти и начать где-то новое дело, остроумное название может наскучить, ну а в инициалах вообще можно запутаться.

Впрочем, все едины в одном: что прежде чем сказать «а», надо дважды, нет, трижды подумать, что же вы хотите данным названием сказать.

Александр ДИСКО.

СЛУЖБА -- ДНІ І НОЧЫ

# «КУПІЦЕ ВАРТАЎНІКА ЗА БУТЭЛЬКУ ГАРЭЛКІ»

**Такая незвычайная прапанова паступіла ад намесніка начальніка аховы пры УУС Мінгарвыканкама падпалкоўніка міліцыі Аляксея Валодзіна.**

**— Аляксей Адамавіч, гэта не калядны жарт?**

— Не. Зрэшты, думайце самі, вырашайце самі. Я толькі прывяду маленькую матэматычна–фінансавую раскладку. Аб'яднанне «Ахова» апякуе ў сталіцы трынаццаць тысяч кватэр. У месяц наша паслуга каштуе заказчыку ўсяго толькі дзевяць тысяч рублёў. Адсюль і паралель–алегорыя, якая «выліваецца» ў бутэльку рускай гарэлкі.

**— Тады чаму ж гараджане не ідуць да вас за дапамогай? Такім чынам была б знята агульная бяда — шматлікія крадзяжы дзяржаўнай і асабістай маемасці?**

— Перашкаджаюць іншыя праблемы. Напрыклад, далёка не кожнаму па кішэні мантаж сігналізацыі, кошт абсталявання, блакіроўка дзвярэй. Мінімальная цана ўстаноўкі самага простага «вартаўніка» — трыццаць тысяч.

**— Усё роўна гэта не так страшна, як магчымы ўрон, калі ў кватэры пагаспадараць зладзеі. Упэўнены, у каго ёсць што ўкрасці, той, як кажуць, за цаной не пастаіць. Ці зможа, ці пад сілу вашаму ведамству ўзяць пад апеку ўсіх жадаючых?**

— Мы зможам. Але заказчык, магчыма, сутыкнецца з яшчэ адной праблемай, якая не залежыць ад міліцэйскіх магчымасцей. Справа ў тым, што айчынная ахоўная сігналізацыя цесна пераплятаецца з тэлефоннымі камунікацыямі. Таму нашым кліентам можа стаць перш за ўсё той, чыя кватэра тэлефанізавана. Здараецца, чалавек гатовы заплаціць за ўстаноўку і сігналізацыі, і тэлефона. Але калі магутнасцей станцыі не хапае, мы вымушаны адмовіць.

**— Нічога не прапанавайшы?**

— Не. Раім пакінуць заяву. Калі выслабаніцца тэлефонны абанент — людзі ж пераязджаюць ці ім тэлефон па якой–небудзь прычыне проста становіцца непатрэбным, — прапануем устанавіць у кватэры сігналізацыю. Можна звярнуцца і да аўтаномнай сістэмы. Праўда, яна не такая эфектыўная і менш папулярная ў заказчыкаў — усяго толькі два працэнты кліентаў выказалі жаданне засцерагчы ад небяспекі жыллё такім чынам.

**— А наколькі спакойным можа быць той, чыю кватэру аб'яднанне «Ахова» абсталявала па апошняму слову тэхнікі?**

— На ўсе сто працэнтаў. За год прамаргалі толькі адну зладзейскую вылазку. Але заказчык не пацярпеў. Па–першае, кампенсавалі нанесены ўрон у размерах, прадугледжаных заключаным дагаворам. Па–другое, злачынства раскрыта, зламыснікі злоўлены і пакараны. Вядома, за гэтым — напружаная і часта небяспечная праца, стараннасць і ўважлівасць на пультах цэнтралізаванай аховы. Трыццаць разоў прыходзілася прымяняць зброю, уступаючы ў схватку з тымі, хто замахваецца на грамадскую і асабістую маёмасць. Прадухілілі без нечага пяцьсот крадзяжоў, затрымаўшы шэсцьсот зладзеяў. Упершыню за многія гады супрацоўнікі нашых падраздзяленняў раскрылі злачынстваў больш, чым вядучыя службы: участковыя, следства, патрульна–паставая.

**— Дарэчы, аб «дамушніках» ходзяць ледзь не легенды: маўляў, настолькі вялікія і няўлоўныя майстры. Ці пацвердзілі «імідж» злоўленыя?**

— Змагацца з імі і сапраўды складана. Але пакуль у нас большыя магчымасці, і прафесійна мы мацнейшыя. А трапляюцца пры спробах пажывіцца або нажыцца за чужы кошт людзі самых розных схільнасцей і ўзростаў. Пры гэтым назіраецца небяспечная тэндэнцыя: злачыннасць маладзее, уцягваючы ў вір хлопчыкаў і дзяўчынак. У Першамайскім раёне, напрыклад, затрымалі злачынную парачку дзевяці і дванаццаці гадоў, якая выкрала ў магазіне дарагі камп'ютэр.

**— Аляксей Адамавіч, наша размова атрымаецца як бы незакончанай, калі не ўспомнім аб праблемах аб'яднання.**

— Іх шмат. Частку будзем вырашаць унутры ведамства. Ці справядліва, выконваючы агульную задачу барацьбы са злачыннасцю, купляць форму, зброю, радыёстанцыі, прыборы, бензін за свае кроўныя? Падводзяць і гаспадарчыя заказчыкі — своечасова не расплачваюцца за ахову аб'ектаў. Сумы набягаюць велізарныя, што стрымлівае наша развіццё. Але ў любым выпадку знаходзім кампрамісы, якія даюць магчымасць трымаць высокую марку аб'яднання «Ахова».

Уладзімір СТРЭЛЬСКІ, БЕЛІНФАРМ.

ЗЯМЛЯ І ВОЛЯ

# ФЕРМЕРСТВУ НЕ СПРЫЯЮЦЬ...

Апошнія паўгода правядзенне зямельнай рэформы ў Беларусі прыпынена. Аб гэтым заявіў старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін.

Галоўную віну за гэта Я.Лугін ускладае на кіраўніцтва рэспублікі і мясцовыя ўлады, якія арыентуюцца на калгасы і саўгасы ды зусім не ўспрымаюць самастойныя фермерскія гаспадаркі.

Паводле звестак сялянскай партыі, сёння ў Беларусі налічваецца каля трох тысяч суб'ектаў самастойнага гаспадарання на зямлі. Назіраецца тэндэнцыя змяншэння колькасці жадаючых атрымаць зямлю ў карыстанне, а таксама вяртання зямлі фермерамі. За апошні час, па словах Я.Лугіна, такіх адказнікаў стала ўжо каля ста чалавек.

Антон АНДРОСАЎ, БелаПАН.

СОТРУДНИЧЕСТВО

# НА БЕЛОРУССКИХ ДОРОГАХ — ПО–ПРЕЖНЕМУ «ИКАРУС»

Чрезвычайный и Полномочный Посол Венгерской Республики в Республике Беларусь (по совместительству, с местом расположения в Варшаве) г-н Экош Энгельмайер, заканчивая свою деятельность в качестве посла, посетил 5 января Республику Беларусь с прощальным визитом.

За два года его работы сделаны шаги к сближению между Венгрией и Беларусью. Например, с 1995 года в Пинске начнется выпуск «Икарусов», в которых Беларусь очень нуждается. К 1996 году будет выпущено около 150 автобусов. «Венгрия же нуждается в белорусских тракторах, — заявил г-н Энгельмайер, — объем нашего взаимного товарооборота сейчас гораздо меньший, чем мог бы быть. Венгрия большое значение придает сотрудничеству со странами бывшего СССР и хотела бы открыть свое представительство в Минске».

Александр ВАСИЛЕВСКИЙ, РИД.

ПРОМЫШЛЕННОСТЬ

Первые образцы уникальных минипогрузчиков собраны на Могилевском автозаводе имени Кирова. Это результат контракта, заключенного с одной из немецких фирм.

Как и ожидалось, покупательский спрос на новую продукцию очень высок. Еще бы! Погрузчик сможет выполнять более десятка различных видов работ. Этому способствует обилие навесных агрегатов. Однако первенцы будут снабжены пока лишь пятью: захватом для сена, ковшом и отвалом для грунта, захватом для укладки бордюров, щеткой для уборки улиц. В перспективе погрузчик «научится» подстригать газоны и кусты, валить лес, бурить почву, выполнять многое другое. Особый интерес к минипогрузчику проявляют коммунальные службы.

**НА СНИМКЕ: водитель–испытатель Иван ЛАХАДЫРИН и начальник участка сборки Николай БУЛИН подготавливают минипогрузчик к испытаниям.**

Сергей ХОЛОДИЛИН, БЕЛИНФОРМ.
Фото автора.

У ОРГАНАХ МЯСЦОВАЙ УЛАДЫ

## ЗДЗЕЛКІ ПРЫЗНАНЫ ЗАКОННЫМІ

Летам у Салігорску адбыўся продаж на конкурснай аснове дзевяці аб'ектаў гарадской камунальнай уласнасці, сярод якіх быў рэстаран, лазнева-аздараўленчы комплекс, магазіны. Аб'екты былі прададзены, аднак група мясцовых дэпутатаў паставіла пад сумненне правільнасць іх продажу, прад'явіўшы прэтэнзіі да гарвыканкама, які яны ж самі надзялілі правам продажу.

Пасля двухмесячных разборак і праверак адбылася нечарговая сесія гарсавета, на якой яшчэ раз абмяркоўвалася пытанне аб законнасці прыватызацыі камунальнай уласнасці. На гэты раз дэпутаты крыміналу не знайшлі. Большасцю галасоў сесія прызнала здзелкі законнымі.

Анатоль МАКСІМАЎ, БелаПАН.

## У АРЭНДУ — РАКА

Рашэннем Магілёўскага райсавета ўчастак ракі Днепр працягласцю каля 20 км да поўначы ад абласнога цэнтра перадаецца ў арэнду на дзесяць гадоў санаторыю-прафілакторыю «Сосны» Магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно».

Новаму арандатару ракі ставяцца ў абавязак яе ахова ад браканьераў, здабыча рыбы, а таксама зарыбленне дадзенага ўчастка.

Барыс МІХЕЕЎ, БелаПАН.

У КРАІНАХ БАЛТЫІ

## «БЕЛАРУСЬ» У ВІЛЬНЮСЕ

У пачатку новага года на самым вялікім праспекце сталіцы Літвы — Саванору адкрыўся Гандлёвы дом літоўска-беларускага прадпрыемства «Балтарусія» — «Беларусь». У ім прадпрыемствы і прыватныя асобы могуць арандаваць па даступнай цане гандлёвыя плошчы для рэалізацыі сваіх тавараў. У лютым тут намечана правесці шэраг выставак сучасных вырабаў беларускіх таваравытворцаў, пазнаёміць з імі літоўскіх пакупнікоў.

У далейшым плануецца выкарыстоўваць гэты камерцыйны цэнтр як гандлёвае прадстаўніцтва, дзе пастаянна будуць прысутнічаць тыя новыя і дабракаякасныя тавары, што можа пастаўляць на рынак Беларусь.

Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛІНФАРМ.

## ПЕРШЫ ЛАЎРЭАТ ФОНДУ ЗГОДЫ

Прэмію першаму лаўрэату Фонду згоды ўручыў у старажытнай вільнюскай ратушы Прэзідэнт Латвійскай Рэспублікі Альгірдас Бразаўскас. Яе лаўрэатам стаў вельмі вядомы літоўскі паэт Юсцінас Марцынкявічус.

Прымаючы высокую ўзнагароду, літаратар падкрэсліў, што задача інтэлігенцыі — аб'яднацца, але не «з кім-небудзь, а ў імя чагосьці». Гэту ісціну, лічыць лаўрэат, асабліва важна засвоіць цяпер, калі разгарэлася барацьба за ўладу.

Фонд згоды заснаваў прадпрымальнік Юлюс Казенас. Прэміямі гэтага фонду напярэдадні Новага года будуць штогод узнагароджвацца грамадскія дзеячы і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Літвы, для якіх згода і цярпімасць да чужой думкі — не пустыя словы, а спосаб жыцця і паводзін.

Альгімантас Бразайціс, БЕЛІНФАРМ.

ДЗЕЛАВЫ МІНСК

# ГАЛОЎНЫ ПРЫЗ — ПАЕЗДКА Ў ГЕРМАНІЮ

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**

Працягваецца конкурс на лепшае прадпрыемства сярод беларускіх фірм малога і сярэдняга бізнесу, які праводзіць Саюз прадпрымальнікаў Беларусі. Вынікі яго будуць падведзены ў сярэдзіне лютага. Прадпрыемствы, якія зоймуць тры прызавыя месцы, змогуць прыняць удзел у чарговай сустрэчы прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу Еўропы, якая адбудзецца ў сакавіку ў Дортмундзе (Германія).

